

# НавіНЫ
## БНФ

**нумар 5 (83)**
11 чэрвеня 2005 г.





Калі адзін самадур адмятае ў бок славутыя й вядомыя імёны, гэта ня можа не хваляваць любога прыстойнага чалавека. Хвалюе гэта й нас. Бо апроч чыста юрыдычнага моманту (закон не дазваляе рабіць падобныя зьмены аднаасобна) ўзьнікае пытаньне наконт практыкі, якая, калі так пойдзе й надалей, можа прывесьці да зьяўленьня прыжыцьцёвага пляцу й вуліцы Аляксандра Лукашэнкі. Тэма сёньняшняга нумару – менскія тапонімы. Назвы, пляны па перайменаваньні, аналіз сёньняшняе сытуацыі, успаміны тых, хто спрычыніўся да, нажаль, такой кароткай хвалі перайменаваньняў пачатку 90-х. Сёньня нашая гаворка, у асноўным, пра сталіцу. Надамо ўвагу таксама й іншым гарадам і мястэчкам.

**Рэдакцыя**

## першая асоба



Змагаемся супраць незаконнага перайменаваньня менскіх праспэктаў і вуліцаў, шукаючы афармленьня грамадзкага абурэньня й пратэсту (бо масы людзей сапраўды абураныя). Добрая нагода разважыць эфэктыўнасьць нашых акцыяў. Мерка эфэктыўнасьці – ці шмат людзей пабачылі, зразумелі, натхніліся, асьмялелі.

Ёсьць завядзёнка ладзіць вулічныя шыхты пратэсту ("ланцугі" – недарэчнае слова) у двух-трох цэнтральных кварталах сталіцы. Сцэнар паўтараецца як у фільме "Дзень сурка": пяць хвілінаў стаім з партрэтамі Скарыны, зьяўляецца АМАП, акружае, выводзіць на пэрыфэрыйныя вуліцы. Усё, акцыя скончаная. Пабачылі яе, вельмі ж нядоўгую, мінакі на цэнтральных вуліцах: прыежджыя, чыноўнікі, наведнікі ГУМу. Аўтар перайменаваньняў акцыі ня бачыць, бо ў гэты час ужо даўно гуляе ў футбол (тэніс, хакей, катаецца на роліках – патрэбнае падкрэсьліць).

Днямі паспрабавалі мы зьмяніць падыход. Сталі такім самым шыхтом з партрэтамі Скарыны на праспэкце ягонага імя, але каля мэтро ў мікрараёне Ўсход. Народ вяртаецца дахаты. Многія жывуць менавіта на праспэкце, а значыць, перайменаваньне стварае для іх пабытовыя праблемы. Убачыўшы нас, падыходзяць, выказваюць сымпатыі; каля дзесяці чалавек папрасілі партрэты й сталі ў шэраг. Нас пабачыла ў дзясяткі разоў болей народу, чым у цэнтры. А міліцыя пачала цясьніць нас ажно праз 55 хвілінаў ад пачатку акцыі.

Выснова: не паддаваймася спакусе безупыннага й бясплённага лабавога сутыкненьня. Трэба ісьці да людзей – туды, дзе яны жывуць і працуюць. У мікрараёны й на прахадныя. А не працаваць на чысты піар у незалежнай прэсе, якую чытаюць тыя, каго агітаваць ня трэба.

І яшчэ. Людзі, якія падыходзілі, прасілі інфармацыі: нешта прачытаць, падпісаць, перадаць суседу.

* * *

Слушна нехта сказаў: сто тысячаў добра паінфармаваных людзей – самы рэальны вынік палітычнае працы. Для Партыі БНФ няма сёньня справы, важнейшай за інфармаваньне грамадзтва. Інакш усё, што мы робім, думаем, плянуем, так і застанецца для нутранога самаспажываньня. Нельга спадзявацца толькі на зарэгістраваную прэсу. Недзяржаўныя газэты выходзяць невялікім сумарным накладам, дый чытаюць іх самі свае. Да таго ж узгадайма, як некаторыя з такіх газэтаў аддавалі цэлыя палосы й нумары пад піараўскія праекты "раскруткі" чарговага намэнклятурнага выратавальніка нацыі, замест таго каб інфармаваць грамадзтва.

Мы любім спасылацца на досьвед польскае "Салідарнасьці". Вось жа стварэньне незалежнае ад уладаў інфармацыйнае прасторы было адным з найважнейшых мэтадаў барацьбы з камуністычным рэжымам у Польшчы. Наклад – ад колькіх дзясяткаў (на машынцы) да дзясяткаў тысячаў (падпольна на друкарскім абсталяваньні). Заводзкія, унівэрсытэцкія, гарадзкія ды сельскія газэты й іншыя пэрыёдыкі. Гэта без улётак, брашураў, плякатаў, паштовак, кніг. Бальшыня выданьняў друкавалася й распаўсюджвалася бяз вонкавага фінансаваньня.

У пэўным сэнсе стварэньне, памнажэньне й распаўсюд незалежных выданьняў ёсьць тактычная самамэта палітычнай арганізацыі. Вакол гэтае справы гуртуюцца інтэлектуальныя лідэры, мэнэджэры, "тэхнары"; удасканальваецца й нарошчваецца арганізацыйная структура, фармуюцца каналы дастаўкі. Зрэшты, многія з нас маюць немалы самвыдавецкі досьвед. Выходзілі альбо выходзяць разнастайныя бюлетэні, зарыентаваныя на розныя мэтавыя групы. Трэба толькі ўлучыць іх у пэўную сыстэму. Тэхнічна гэта лягчэй, чым у 80-я.

У 80-я не было Сеціва, цяпер ёсьць. Запаўняць яго інфармацыяй незраўнана лягчэй, чым ляпаць на машынцы праз капірку пяць копіяў. Але ці ж мы гэта робім? Аднаго партыйнага сайту мала. Дзе рэгіянальныя фронтаўскія сайты, якія сям-там пачыналі, дзе сайт фронтаўскае моладзі? Поле велізарнае, аратых мала.

А чым напаўняць твораную нашымі рукамі інфармацыйную прастору – наступным разам.

**Вінцук Вячорка**

# Усе на сход!

15 чэрвеня распачнецца чарговы этап працэдуры вылучэньня адзінага кандыдата. Жыхары ўсіх раёнаў краіны зьбяруцца на раённыя сходы, каб вылучыць сваіх прадстаўнікоў на Кангрэс дэмакратычных сілаў. Ад кожнага адміністрацыйнага раёну краіны і кожнага раёну ў гарадох з раённым падзелам мусяць быць вылучаныя па два дэлегаты на Кангрэс. У сходах маюць права браць удзел усе жыхары раёну, прапісаныя ў дадзеным раёне. (Такое абмежаваньне было ўведзенае, каб запабегчы так званых "карусэляў", вельмі папулярных ва Ўкраіне за часам другога раўнду іхных "памаранчавых" выбараў). Сход будзе лічыцца легітымным, калі у ягонай працы возьмуць удзел найменей 25 чалавек.

Так, гэта "тэхнічны" этап – квота рэгіянальнага прадстаўніцтва складае толькі недзе траціну ад агульнай колькасьці "кангрэсмэнаў", а самі сходы нечым нагадваюць партыйныя сходы па вылучэньні дэлегатаў на партыйныя зьезды. Але мы, як партыя, мусім максымальна адказна паставіцца да гэтай часткі працэсу. Пасьпяховая кампанія рэгіянальных сходаў відавочна засьведчыць пра наш патэнцыял, пра колькасьць актывістаў, гатовых працаваць у камандзе наступным летам. Бо мэта вылучыць дэлегатаў на Кангрэс – гэта толькі складнік больш глыбокага сэнсу, які нясуць у сабе рэгіянальныя сходы. Галоўным чынам, рэгіянальныя сходы – гэта рэвізія нашых сілаў і ацэнка маральна-валявога, арганізацыйнага, мабілізацыйнага стану. Гэта адначасова магчымасьць пазнаёміцца з прэтэндэнтамі, выказаць свае прапановы й парады што да правядзеньня кампаніі, бо самі прэтэндэнты наведаюць шмат якія раённыя сходы. Удзельнікі сходаў маюць стаць камандай адзінага кандыдата падчас агульнадэмакратычнай кампаніі, зьбіраць за адзінага подпісы, агітаваць за яго, назіраць на выбарчых участках і пасьля абараніць перамогу. У рэшце рэшт, такія сходы – выдатная магчымасьць для дэмакратычнага актыву раёну хаця б замацаваць асабовыя кантакты й прадумаць далейшую працу у рэгіёне.

*(працяг на стар. 3)*



**Андрэй САРОТНІК,**
сакратар Управы Партыі БНФ

Раённыя сходы набываюць вырашальны сэнс для Партыі БНФ. Пасьля абласных канфэрэнцый дэмакратычнага актыву выявіўся фаварыт, падтрыманы большасьцю вабласьцей. Гэта Аляксандар Мілінкевіч – прэтэндэнт, вылучаны Партыяй БНФ. Гэта значыць, што нацыянальны грунт і дэмакратычныя прынцыпы ёсьць выйгрышнай камбінацыяй і зьяўляюцца істотнымі для большасьці людзей дэмакратычных поглядаў, якія ў сваіх мясцовасьцях фармуюць грамадзкую думку і зьяўляюцца нефармальнымі лідэрамі. Адпаведна, выбар Партыі БНФ стаўся слушным, прынамсі на гэтым этапе мы не дапусьцілі памылкі. Аднак зроблены толькі адзін крок. Наступным крокам бачыцца ўзорная й прафэсійная арганізацыя раённых сходаў, якую нашыя франтаўцы з рэгіёнаў цалкам могуць забясьпечыць. Цэнтральны апарат Партыі ў сваю чаргу гатовы аказаць дапамогу. Так, гэта цяжкая арганізацыйная праца, магчымыя і нават непазьбежныя шматлікія перашкоды з боку рэжыму, але сходы мусяць быць праведзеныя, а дэлегаты вылучаныя. Летам 2006 году ўмовы вядзеньня кампаніі наўрад ці палепшацца, таму ўжо цяпер трэба выпрацоўваць схемы паводзінаў у розных абставінах. Магчымыя падводныя камяні могуць хавацца і сярод, як здавалася б, дэмакратычнага лягеру. Некаторыя грамадзкія арганізацыі з прэтэнзіяй на абсалютную дэмакратычную ісьціну спрабавалі ўзяць на сябе функцыю вышэйшага арбітру і патрабавалі для сябе асобны статус – вырашаць аб легітымнасьці-нелегітымнасьці сходу, назіраць за ягоным працэсам збоку і пасьля жэстам вялікіга пальца "забіць глядыятара ці дараваць яму жыцьцё" г.зн. прызнаць ці не прызнаць сход. Дэмакратычнасьць і адкрытасьць сходу забясьпечваецца markznabakovym прадстаўніцтвам прэтэндэнтаў, нашай сістэмай стрымак і процівагаў, і магчымасьцю ўдзелу ў сходзе УСІХ жыхароў раёну. Аргкамітэт па правядзеньні Кангрэсу пагадзіўся з допускам незалежных назіральнікаў на раённыя сходы, што празрыста і дэмакратычна.

Але тыя ж прадстаўнікі "Партнэрства" замест таго, каб "сядзець на плоце" і шукаць хібы, маглі б зарэгістравацца ў якасьці ўдзельнікаў сходу, быць абранымі старшынём, сакратаром сходу, у падліковую камісію, і сваім асабістым прыкладам паказаць як працуе дэмакратыя ў межах аднаго асобнага сходу.

Тым ня менш, зараз перад намі стаіць задача – арганізаваць раённыя сходы і вылучыць дэлегатаў на Кангрэс, і ў той жа час правесьці агляд сілаў і сродкаў, зь якімі мы будзем выходзіць у 2006 год – год, які мусіць прынесьці нам бел-чырвона-белыя перамены.

# Глядзім на людзей, а не на паперкі



Перад пачаткам раённых сходаў па вылучэньні адзінага кандыдата мы вырашылі паглядзець на тое, як выглядаюць рэгіянальныя кааліцыі, ці яны насамрэч ладзяць супольную працу дзеля агульнай перамогі. На пытаньні "Навінаў" адказвае кіраўнік Берасьцейскай абласной арганізацыі Партыі БНФ **Юрась ГУБАРЭВІЧ**.

**— Што такое рэгіянальная дэмакратычная кааліцыя па-берасьцейску?**

— У нашай сытуацыі кааліцыя, мяркую, працуе даволі эфэктыўна. Мабыць, гэта абумоўлена й тым, што яшчэ пяць гадоў таму на Берасьцейшчыне працавала шырокая дэмакратычная кааліцыя "Берасьцейскае пагадненьне". Таму зараз кааліцыйная супраца ня ёсьць для нас нечым новым. Стрыжань кааліцыі ўтвараюць тры партыі – Партыя БНФ, АГП і ПКБ. Таксама ёсьць асобныя прадстаўнікі зьліквідаванай Партыі працы, БСДГ, шэрагу рэгіянальных грамадзкіх аб'яднаньняў ды асобныя рэгіянальныя лідэры. Найноўшая гісторыя нашае супрацы вядзе свой пачатак ад 2003 году. З таго часу мы плённа працуем, прычым бэз усялякіх канфліктаў. Натуральна, розьніца ў падыходах ёсьць. Але мы правялі дзясяткі працоўных паседжаньняў, разам зьдзейсьнілі шэраг паездак ва ўсе раёны вобласьці. Гэта, ведаеце, адчувальна. Слабых месцаў у кааліцыі паменела.

**— А як наконт узроставых адрозьненьняў?**

— Разумею, што пытаньне крыху жартоўнае. Адкажу так. Неяк на адной з міжпартыйных нарадаў прысутнічаў таксама кіраўнік берасьцейскай філіі БСДП (НГ) Анатоль Ляўковіч, а таксама – рэгіянальныя кіраўнікі АГП (Сьцяпан Навасяльчан) ды ПКБ (Леанід Майструк). І пачалі калегі адзін аднаму распавядаць, у якой партыйнай структуры яны былі, калі былі сябрамі КПСС. Я ж мог шчыра заявіць, што зь імі ў адной партыі ніколі ня быў. А калі сур'ёзна, дык праца йдзе, не зважаючы на ўзрост. Ніякіх там палёгкаў ці жартаўлівага стаўленьня. Бо праблемы вырашаем сур'ёзныя.

**— Самая сур'ёзная зь іх – перавод структураў у нежылы фонд ды іх перарэгістрацыя. Як прайшлі гэтае цяжкае выпрабаваньне?**

— Берасьцейская абласная арганізацыя, хіба што, адчула найбольшы ўдар. У нас былі зарэгістраваныя 32 суполкі. Засталося блізу 10: 5 – у Берасьці, ды яшчэ 5 – у мястэчках, дзе офісы месьцяцца ў прыватных хатах. Усе астатнія арганізацыі Мінюсту "не падыходзяць".

**— А як гэта адаб'ецца на партыйным прадстаўніцтве на раённых сходах, якія распачнуцца 15 чэрвеня?**

— У Берасьцейскай вобласьці – крыху пазьней – з 2 па 30 ліпеня. А праблема рэгістрацыі структураў на прадстаўніцтве не адаб'ецца ніяк, бо людзі ж засталіся. Мы глядзім на людзей, а не на паперкі. Сходы пройдуць незалежна ад афіцыйнае рэгістрацыі ці нерэгістрацыі. Працэс ідзе, графікі ўзгодненыя, маршруты вызначаныя, таксама ёсьць адказныя каардынатары на месцах. Адказнасьць таксама падзеленая, што вельмі істотна. Так што працэс абяцае прайсьці бяз хібаў.

# Праявы некішэннага парлямэнту

Юры Гембіцкі

*"Карупцыя – гэта выкарыстаньне дзяржаўнай службовай альбо прыроўненай да яе асобай свайго службовага становішча й зьвязаных зь ім магчымасьцяў, спалучанае з проціпраўным атрыманьнем маёмасьці ці іншай выгоды ў выглядзе паслугі як маёмаснага, так і немаёмаснага характару, абяцаньня перавагі для сабе ці трэціх асобаў шляхам прадастаўленьня ім маёмасьці ці іншай выгоды ў выглядзе паслугі маёмаснага ці немаёмаснага характару, пратэкцыі, абяцаньня перавагі".*

Прачытайце гэта ўважліва, яшчэ й яшчэ раз. Гэта тое, што лябіююць прэзыдэнцкія юрысты. Гэта – пачатак аднаго з самых змрочных "прадуктаў" Цэнтра законапраектнай дзейнасьці пры прэзыдэнце – законапраекту пра барацьбу з карупцыяй.

Законапраект накіраваў на разгляд у палату прадстаўнікоў Аляксандар Лукашэнка. Ужо двойчы гэты праект закона дэпутаты адхілялі. Але Лукашэнка прапіхвае праект у трэці раз. Гаворачы: "Ніякіх кампрамісаў". Дэпутаты накіроўваюць у адміністрацыю прэзыдэнта больш за 60 паправак да праекту. А намесьнік начальніка галоўнага дзяржаўна-праўнага ўпраўленьня адміністрацыі Алена Калеціч зьдзіўлена кажа, што нічога не атрымлівала. Дэпутаты на пашыраным паседжаньні камісіі па нацыянальнай бясьпецы заклікаюць дапрацаваць законапраект, гаворачы, што заля не падтрымае яго ў трэці раз. А супрацоўнікі адміністрацыі прэзыдэнта толькі пасьміхаюцца: "Падтрымаеце. Куды ж вы падзенецеся?"..

Такая сабе законатворчасьць па-беларуску. І што вы думаеце? У апошні момант разгляд законапраекту тэрмінова пераносяць на больш позьні тэрмін. Бо "дацiснуць" дэпутатаў не атрымалася й гэтым разам. І ўлада, баючыся, што законапраект адправяць на дапрацоўку ў трэці раз, адкладае яго разгляд зь 9 чэрвеня на тыдзень. А мабыць, і на два. А мабыць, і да восеньскай сэсіі. Непаслухмяныя дэпутаты ўсё прапануюць і прапануюць нейкія там удакладненьні. І ня проста так. Яны разумеюць, што калі зацьвердзяць гэты законапраект, то за імі непазьбежна прыйдуць. За чакалядкі, за кветкі. За асадкі, за каласкі. Проста за тое, што камусьці нечым дапамагаюць, бо хочуць пераабрацца. Гэта ж і ёсьць тая самая "выгода немаёмаснага характару", гэтак званы "гандаль уплывам". А таксама прыйдуць і за ўсімі астатнімі. За кім пажадаюць. Бо прыраўняць да дзяржаўнай службовай асобы можна будзе хоць малпу ў зьвярынцы. І пасадзіць за атрыманьне няўлічанага дармовага банана. Бо хутка садзіць будзе папросту няма каго.

Сацыялягічныя апытаньні дэманструюць, што 84 % бізнэсоўцаў даюць хабар. Вось з-за такой "законатворчасьці" і даюць. А службовыя асобы бяруць. Ніхто не спрачаецца, гэта дрэнна. Агульная страта ад карупцыі ў Беларусі ў мінулым годзе склала 40 мільярдаў рублёў. Але такі законапраект, які лябіюе цэнтр законапраектнай дзейнасьці пры прэзыдэнце дасьць падставу перасаджаць якраз тых, хто ніякай страты не наносіць. А карупцыя толькі замацуецца, бо над такімі, як Галіна Жураўкова (былы кіраўнік справамі Лукашэнкі, калі хто ня памятае), якая нанесла дзяржаве страты на суму больш за 3 мільёны даляраў, добры прэзыдэнт зьлітуецца. Інакш жа, ведаеце, яны могуць пачаць гаварыць. (Дарэчы, Жураўкова, асуджаная на 4 гады так і не праседзела аніводнага дня). Аб карупцыі ў нашай краіне гамоніць самы галоўны карупцыянэр. Які прыбраў да ўласных рук літаральна ўсю краіну. І ніякіх кампрамісаў!

Якія могуць быць кампрамісы, калі з азначэньня карупцыі зьнікае слова "наўмыснае" ў дачыненьні да выкарыстаньня службовага становішча. А ці не наўмысна гэта зроблена? Ад гэтага ж – паўкрокі да крымінальных справаў за незабясьпечаньне прагнозных паказьнікаў у прамысловасьці, сельскай гаспадарцы. А потым – у навуцы, у спорце, паўсюль. Шэраг карупцыянэраў пашыраецца, заробкі ў КДК, КДБ, МУС, Пракуратуры адпрацоўваюць сотні тысячаў барацьбітаў з карупцыянэрамі – дактарамі, настаўнікамі, бізнэсоўцамі, дэпутатамі. Нават замежнымі грамадзянамі, якія згодна з законапраектам будуць лічыцца суб'ектамі карупцыйных адносінаў. Гэта ўсё называецца жыцьцё па паняцьцях. А ёсьць жа яшчэ й традыцыі. І звычаі. Законаў толькі няма, ёсьць "інструмэнты ўзьдзеяньня". Безьліч інструмэнтаў. Вось дэпутаты й павылазілі з "бацькавай" кішэні. Забыліся, як абіраліся. Натуральна, ня ўсе. Але апроч надзеі ў нас цяперака ёсьць упэўненасьць, што большасьць палаты прадстаўнікоў трымае хвігу ў кішэні. І, што больш істотна, здольная яе адтуль дастаць.

# БНФ вяртаецца

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ,**
намесьнік старшыні
Партыі БНФ



На гэтай зямлі няма й ніколі ня будзе нічога больш каштоўнага, чым нашая Бацькаўшчына – Беларусь, наш народ, нашая беларуская мова, нашыя сьвятыя сымбалі – бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня. Мы нарадзіліся дзеля таго, каб атрымаць гэтыя каштоўнасьці ад нашых бацькоў, жыць зь імі, абараняць і захоўваць, а потым перадаць будучым пакаленьням. Кожны з нас ведае гэта, і менавіта таму мы сёньня ў Партыі БНФ. Таму што мы верым: жыцьцё нацыі ёсьць самадастатковай каштоўнасьцю, і гэтае жыцьцё немагчымае без гісторыі, культуры, традыцыяў, сымбаляў, дзяржавы. Усе астатнія пункты нашай праграмы – другасныя, скіраваныя на рэалізацыю нашых асноўных каштоўнасьцяў.

У апошнія некалькі гадоў мы былі павінныя асвойваць новыя мэтады працы зь людзьмі, таму што, з аднаго боку, супраць нас былі скіраваныя шматлікія атакі рэжыму, і нам давялося адмовіцца ад некаторых формаў дзейнасьці, а зь іншага боку – новыя тэхналёгіі камунікацыі непазьбежна пранікаюць у нашае грамадзтва й патрабуюць, адпаведна, новых падыходаў. Мы годна адказалі на гэтыя выклікі. Мы сапраўды добра засвоілі новыя тэхналёгіі. Але пры гэтым мы не павінныя забывацца – унутры мы не зьмяніліся. Мы не маглі зьмяніцца, бо асноўныя, падставовыя каштоўнасьці нязьменныя, яны на ўсё жыцьцё. Магчыма, мы не зразумелі гэта адразу, але нашая сіла – і сіла магутная, непераможная – палягае менавіта ў нашай адданасьці нацыянальнай ідэі. Усе сацыяльныя кампаніі, што мы рабілі ў 2003-2004 гадох, былі патрэбныя й эфэктыўныя, але яны страчваюць сэнс, калі мы пачынаем выдаваць сябе – і часам нават спрабуем паверыць у гэта – за актывістаў-камунальнікаў, якім баліць выключна за тое, каб у пад'езьдзе стаяў дамафон. Адразу зраблю істотную заўвагу: веліч і культура нацыі вымяраецца й чысьцінёй у пад'ездах таксама, таму дагледжаныя дамы й двары ёсьць неад'емнай часткай нашага бачаньня Беларусі. Але нельга хаваць свае ідэалы за шырму сацыяльных пытаньняў. Гэта тое самае, як рамантаваць кран, наўмысна запэцкаўшы твар і выпіўшы гарэлкі, каб адпавядаць стэрэатыпу сантэхніка з ЖЭСу. І недарэчна, і няшчыра, і па-дурному. Нам трэба, каб людзі бачылі й гаварылі: глядзіце, БНФ, нацыяналісты, цікавяцца нашымі праблемамі й дапамагаюць. За гэта нас будуць паважаць. А калі будуць лічыць, што БНФ адмовіўся ад сваіх каштоўнасьцяў, каб спадабацца бальшыні – ня стануць паважаць двойчы: за тое, што адмовіліся ад свайго, і за тое, што хочам спадабацца.

Дарэчы, яшчэ адзін істотны момант. Нам ня трэба падабацца ўсім. Мы павінны добра адрозьніваць павагу да людзей, разуменьне іх праблемаў і імкненьне знайсьці шляхі вырашэньня гэтых праблемаў у межах сваёй праграмы – гэта тое, чаму мы навучыліся ў апошнія некалькі гадоў – усё гэта трэба адрозьніваць ад жаданьня спадабацца й пустога крыку ды "піяру" – гэта тое, што цяпер асвойваюць і практыкуюць некаторыя нашыя часовыя паплечнікі – апазыцыянэры.

Такім чынам, мы зьмяніліся, трансфармавалі Партыю ў адпаведнасьці з патрэбамі часу, але нашыя мэты й каштоўнасьці – тыя ж, што й 15 гадоў таму.

Менавіта гэта дазваляе мне сьцьвярджаць сёньня – мы ніколі ня будзем ахвярамі. Забудзьцеся на тое, у чым нас імкнецца пераканаць лукашэнкаўская прапаганда: БНФ слабы, БНФ пераможаны, БНФ працягвае існаваць толькі датуль, пакуль гэта дазваляе прэзыдэнт. Хлусьня! Мы маем права й павінны пачувацца годна й упэўнена, бо мы – сіла. Так, мы сапраўды вымушаныя былі заняць абарону й да сёньня яе трымаем, але, як толькі рэжым мінімальна прыпынецца, каб перадыхнуць, як толькі ён дапусьціць мінімальную слабасьць – мы гатовыя да атакі, і ён пачне атрымліваць сакрушальныя ўдары, адзін за адным, да канца, да перамогі.

Будуць вернутыя сьцяг, мова, будзе створаная сыстэма нацыянальнай адукацыі, беларускія органы нацыянальнай бясьпекі – і далей, уся праграма БНФ, пункт за пунктам!

Партыя БНФ – наймацнейшая сёньня сярод усіх апазыцыйных сілаў. Мы лепшыя ў арганізацыі кампаніяў, нас падтрымлівае нацыянальная эліта – Рыгор Барадулін і Уладзімер Арлоў – сябры Сойму, калі хто забыўся: мы найбольш паважаныя й маем лепшыя кантакты на міжнароднай арэне. І самае галоўнае – праўда на нашым баку. Не адносная, часовая рацыя, але вечная праўда. Часам высокія словы гучаць вельмі дарэчы, і нашае змаганьне належыць да такіх выпадкаў. У Беларусі сёньня сытуацыя гранічна простая і зразумелая: ідзе змаганьне дабра са злом, а ня проста за ўладу паміж падобнымі адзін да аднаго гульцамі. І хоць, безумоўна, жывы чалавек ня можа быць абсалютна добры ці абсалютна злы, гэта вядома, але выразна зразумела, хто сёньня на чыім баку. Пры ўсёй павазе – бяз жартаў – да камуністаў, лібэралаў і сацыял-дэмакратаў, кожны разумее, што змаганьне сёньня ідзе паміж таталітарным памкненьнем пазбавіць народ свайго аблічча й ператварыць яго ў натоўп – відавочнае зло, і нацыянальнай ідэяй, што ёсьць увасабленьнем дабра. І тое, што зло сёньня хоча схавацца за адным з нашых лёзунгаў: "За Беларусь!", толькі пацьвярджае – змаганьне, як і ў 95-96-97 гг., вядзецца паміж БНФ і рэжымам, і менавіта мы нанясем вырашальны ўдар.

Надыходзіць наш час. Удары рэжыму сёньня ўжо збольшага трапляюць у паветра. Калі яшчэ некалькі гадоў таму адхіленьне Язэпа Сярэдзіча ад пасады рэдактара "Народнай газэты" падавалася ледзьве не фатальнай падзеяй, сёньня нават пагроза страты Цэнтральнай Сядзібы не выглядае болей чым тэхнічнай праблемай. Усе гавораць пра закрыцьцё партыяў, а мы пачынаем выдачу новых пасьведчаньняў. Лукашэнка страціў момант, калі ён сапраўды мог зьнішчыць БНФ, і другога шанцу ў яго больш ня будзе. Ніколі. Таму ідзіце і кажыце гучна, каб кожны беларус пачуў і зразумеў:

**БНФ ВЯРТАЕЦЦА!**



**Уладзімер ЛАБКОВІЧ,**

старшыня арганізацыйна-прававой камісіі Партыі БНФ

# Скарына на праспэкце Скарыны

Ужо вельмі даўно ў краіне не было такога аднадушша ў адмоўным стаўленьні да дзеяньня ўлады. Скарына праз стагодзьдзі ізноў стаўся тым сымбалем, які аб'яднаў нашае грамадзтва. І зараз, калі мы выступаем за вяртаньне назваў менскіх вуліцаў – мы выступаем за беларускі народ, за Беларусь. Ёсьць жа рэчы сакральныя, у якія нельга ўторгвацца паводле свайго жаданьня.

Думаючы пра абарону нашай спадчыны, Партыя БНФ выступіла з прапановай стварэньня шырокага грамадзкага камітэту ў абарону менскіх вуліцаў. Такі камітэт ня ёсьць ініцыятывай палітычных суб'ектаў, а зьявай больш шырокай, да якой далучыліся грамадзкія аб'яднаньні, асобныя грамадзяне: прадстаўнікі культуры, нашая інтэлектуальная эліта. Дарэчы, менавіта ў гэтым і ёсьць яе місія, а не ў закладаньні сходу інтэлігенцыі ў лямбард сумнеўных палітычных праектаў.

Камітэт па абароне назваў вуліцаў Менска, вызначыў наступныя асноўныя кірункі сваёй працы:

– Культурніцка-асьветніцкі кірунак. Яго ачольвае Аляксей Марачкін, які разам зь іншымі сябрамі суполкі мастакоў "Пагоня" будуць праводзіць мастацкія выставы ў гонар Скарыны. Асноўнай часткай імпрэзы будзе выстава "Скарына на праспэкце Скарыны", а таксама шэраг іншых культурніцкіх акцыяў ў гонар нашага гуманіста й першадрукара.

– Вулічныя акцыі. Тут ініцыятыву ад пачатку ўзяла на сябе Моладзь БНФ, якая разам зь іншымі маладзёвымі ініцыятывамі арганізоўвае акцыі на праспэкце Скарыны. Гэтыя акцыі выклікаюць нэрвовую рэакцыю міліцыі, не абыходзяцца без затрыманьняў. Але гэта не спыняе актыўнасьць моладзі, а наадварот, толькі дадае імпэту. У арганізацыі гэтых акцыяў трэба аддаць належнае Франаку Вячорку і іншым маладым людзям, якія, не баючыся затрыманьняў, паказваюць прыклад сваім старэйшым паплечнікам. Трэба адзначыць, што палітычныя актывісты сталага веку таксама супольна праводзяць акцыі на праспэктах Скарыны й Машэрава. Тут менскі АМАП, не праводзячы затрыманьняў, проста выціскае ўдзельнікаў з праспэкту на бліжэйшыя вуліцы. Атрымліваецца фармат такіх сабе "шэсьцяў з удзелам АМАПу" па вуліцах Менску, якія выклікаюць падтрымку ўсіх менчукоў, якія становяцца назіральнікамі такой "экзотыкі". Відавочна, у Беларусі ўжо ня дзейнічаюць нават рэпрэсіўныя законы, якія выдумала ўлада. Гэта ўжо ўвогуле раньняе сярэднявечча, дзе дзейнічае "звычаёвае права" – няпісаныя законы, якія ўводзяцца на хаду.

– Яшчэ адным накірункам зьўляецца правядзеньне рэфэрэндуму ў Менску паводле пытаньняў вяртаньня вуліцам і праспэктам іх назваў. Гэты накірунак зьўляецца адным з самых спрэчных. Партыя БНФ лічыць, што правядзеньне рэфэрэндумаў па зьмене тапамініцы гарадоў можа стаць заганай практыкай, Ня можна кіравацца рэфэрэндумамі пры вырашэньні сакральных духоўных пытаньняў нацыі. Але ў той жа час гэтую кампанію трэба разглядаць, як кампанію, скіраваную на актывізацыю грамадзтва перад прэзыдэнцкімі выбарамі. Неабходна сабраць больш за 120 тысячаў подпісаў, правесьці вялікую арганізацыйную працу.

Гэта выпрабаваньне для дэмакратычных сілаў, бо падчас збору подпісаў за кандыдата трэба будзе правесьці яшчэ большую працу, а зараз ёсьць магчымасьць атрымаць вялікую падтрымку ўсяго грамадзтва. І яе варта правесьці, каб праверыць нашыя магчымасьці, зьвярнуць увагу грамадзтва на праблемы, паразмаўляць зь людзьмі па пытаньнях жыцьця свайго горада, сваёй краіны. Менавіта таму партыя БНФ і падтрымала гэтую ініцыятыву, якая выйшла з АГП.

Трэба таксама адзначыць, што Партыя БНФ першая зьвярнулася ў Канстытуцыйны суд Беларусі са зваротам пра нелегітымнасьць указу Лукашэнкі, які ў чарговы раз перавысіў свае паўнамоцтвы.

Табліца 1. Назовы для першачарговага вяртаньня. Вінцук Вячорка

| Сучасны | Савецкі перыяд | Расейскі перыяд | Даакупацыйны | Заўвагі | Прапановы |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |
| Беларуская | Беларуская | Круглая | Верхняя Ляхаўка | | Верхняя Ляхаўка |
| Гікалы | Гікалы | Бондараўская | | | Бондараўская |
| Даўмана | Даўмана | Пярэспа | Пярэспа | | Пярэспа |
| Калектарная | Калектарная | Яўрэйская | | | Гэбрайская |
| Камуністычная | Камуністычная | Міхайлаўская | | Пн ад Чырвонай | **Міхайлаўская |
| Камуністычная | Камуністычная | Шпітальная | | Чырвоная -> Скар | Міхайлаўская |
| Кастрычніцкая | Кастрычніцкая | Ніжнеляхаўская | Ляхаўка. | | Ніжняя Ляхаўка |
| Кірава | Кірава | Магазынная | | | Магазынная |
| Кісялёва | Кісялёва | Старажоўская | Старажоўская | Старажоўская | *Старажоўская |
| Куйбышава | Куйбышава | Шырокая | Плябанская | | * Плябанская |
| Лодачная | Лодачная | Ляхаўская Слабодка | Ляхаўская | | Ляхаўская Слабада |
| Маркса | Маркса | Падгорная | | | *Падгорная |
| Маякоўскага | Маякоўскага | Ігуменскі тракт | Ігуменскі тракт | | Ігуменскі тракт |
| ПарыскайКамун | Парыскай Камун | Траецкая пл. | Траецкая Гара | | *Траецкая Гара |
| Першамайская | Першамайская | Вясёлая | | | Вясёлая |
| Серафімовіча | Серафімовіча | Кашарская | | | Кашарская |
| Старажоўская | | Старая Слабада | | Барысаглебаўская | *Стараслабодзкая |
| Танкавая | Танкавая | Н.-Чырвоная | | Кафляны з-д | Кафляная |
| Трактарная | Трактарная | Ст.-Загарадная | | | Ст.-Загарадная |
| Ульянаўская | Ульянаўская | Ніжнеляхаўская 2-я | Ляхаўка | | Ляхаўка |
| Фрунзе | Фрунзе | Шпітальная | | | Шпітальная |
| Чырвонаармейс | Чырвонаармейская | Скобелеўская | Новае Места | | ***Навамеская |
| Чычэрына | Чычэрына | Георгіеўская | | | *Юраўская |

Табліца 2 Назовы для першачарговага вяртаньня. Цэнтар горада

| Сучасны афіцыйны | Савецкі перыяд | Польскі перыяд | Расейскі перыяд | Даакупацыйныя | Прапанова |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |
| 8 Сакавіка пл. | 8 Сакавіка пл. | | Ніжні Рынак пл. | Ніжні Рынак пл. | *Ніжні Рынак пл. |
| Віцебская | Віцебская | | Уваскрэсенская | Ракаўскі зав. | *Уваскрэсенская |
| Вызваленьня | Вызваленьня | | Уваскрэсенская | | *Уваскрэсенская |
| Гандлёвая | Гандлёвая | | Гандлёвая | Зыбіцкая | *Зыбіцкая |
| Герцэна | Герцэна | | М.-Манастырская | Манастырская | *Манастырская |
| Дзімітрова | Дзімітрова | | В.Татарская | Татарская | *В.Татарская |
| Інтэрнацыянальная | Інтэрнацыянальная | | Храшчэнская | Валоцкая | *Валоцкая |
| Інтэрнацыянальная | Інтэрнацыянальная | | Праабражэнская | Зборавая | *Зборавая |
| Камсамольская | Камсамольская | | Багадзельная | Фэліцыян(аў)ская | *Фэліцыян(аў)ская |
| Камунальны зав. | Камунальны зав. | | Сэмінарскі зав. | Сэмінарскі зав. | *Сэмінарскі зав. |
| Кастрычніцкая пл. | Кастрычніцкая | | | Новае Места | Новае Места |
| Кірылы і Мяфодзія | Бакуніна | | Манастырская | Бэрнардынская | *Бэрнардынская |
| Леніна | Леніна | Францішканская | Губэрнатарская | Францішканская | *Францішканская |
| Машэрава пр. | Машэрава пр. | | Школьная | Школьная | Школьная |
| Мельнікайтэ | | | Ратамская | | Ратамская |
| Музычны зав. | Музычны зав. | | Манастырскі зав. | Манастырскі зав. | Манастырскі зав. |
| Рэвалюцыйная | Рэвалюцыйная | | Койданаўская | В.Койданаўская | *Койданаўская |
| Свабоды пл. | Свабоды плошча | Катэдральны пл. | Саборная пл. | Высокі Рынак пл. | *Высокі Рынак пл. |
| Энгельса | Энгельса | Дамініканская | Петрапаўлаўская | Дамініканская | *Дамініканская |

# ТЛУМАЧЭНЬНІ ДА ТАБЛІЦАЎ

*Гарадзкая тапаніміка – імёны вуліцаў і пляцаў – стварае культурнае асяродзьдзе й цывілізацыйны кантэкст жыцьця кожнага чалавека. Пасьля незаконнага ўказу Лукашэнкі пра перайменаваньне менскіх вуліцаў і праспэктаў тэма зноў актуалізавалася. У пачатку 90-х гадоў я ўдзельнічаў у працы камісіі па тапаніміцы пры Менскім гарадзкім выканаўчым камітэце, у распрацоўцы Канцэпцыі ўпарадкаваньня гарадзкой тапанімікі й канкрэтных прапановаў. Сёе-тое нагадаю.*

**КАНЦЭПЦЫЯ**

*1. Гістарызм.*

Тапанімічныя сыстэмы населеных пунктаў да пэўнага гістарычнага моманту фармаваліся натуральным шляхам, у выніку народнае моватворчасьці. Ва ўмовах Беларусі прынцып гістарызму пры ўпарадкаваньні тапонімаў, г.зн. вяртаньне гістарычных назваў, безумоўна дзейнічае для назваў, узьніклых да 1772 г. Яны ёсьць культурна-гістарычнымі помнікамі й павінны быць адноўленыя. Пазьнейшыя назвы, нададзеныя гарадзкім аб'ектам у часы Расейскай імпэрыі й Савецкага Саюзу, вымагаюць экспэртызы з гледзішча іхнай адпаведнасьці нормам беларускае мовы, нацыянальным тапанімічным традыцыям, патрэбам выхаваньня пачуцьця нацыянальнай годнасьці, утварэньня непаўторнага тапанімічнага ляндшафту ў пэўным паселішчы.

*2. Адпаведнасьць нормам беларускае мовы.*

Тапанімічныя найменні павінны ўтварацца паводле беларускіх словаўтваральных мадэляў ад беларускіх каранёў (напр. не Большая ул., а Вялікая вул. прычым тапонімы ў іншамоўных тэкстах не перакладаюцца). Адыменныя гарадзкія тапонімы павінны ўтварацца ад беларускіх формаў імёнаў (напр. не Георгіеўская, а Юраўская). Неабходна мець на ўвазе, што бальшыня гарадзкіх тапонімаў у Беларусі мела прыметнікавую форму і толькі рэдкія — форму назоўніка ў назоўным склоне (Няміга). Гістарычныя тапонімаў у форме назоўніка роднага склону (вуліца Пушкіна) не зарэгістравана, што тлумачыцца наагул шырэйшым, чым у расейскай, ужываньнем прыметнікаў, у тым ліку прыналежных (так, назва паэмы "Рыбакова хата" перакладаецца як "Дом рыбака"), а таксама граматычнаю нязручнасьцю формаў тапонімаў у родным склоне ("жыву на Пушкіна", "паехаў на Пушкіна"). (У адпаведнасьці з вышэйсказаным мусіла б быць Скарынаў[скі] праспэкт, хаця чапаць форму, замацаваную традыцыяй, ужо ня варта).

*3. Адпаведнасьць нацыянальным тапанімічным традыцыям.*

Беларускай гарадзкой тапаніміцы ўласьцівыя натуральнасьць, матываванасьць і функцыянальнасьць. Многія тапонімы адлюстроўвалі значэньне ці функцыю тапанімічнага аб'екта: Вялікая вуліца, пляц Рыбны рынак. Значная частка тапонімаў мела геаграфічную матываванасьць і выконвала арыентацыйную функцыю. Гэта — назвы, дадзеныя паводле кірункаў дарогаў, паводле значных аб'ектаў, да якіх вядуць або якія мінаюць вуліцы, паводле рэльефу, пароды дрэваў-прысадаў, ад ранейшае вёскі ці ўрочышча. Матываваныя назвы ад імя першапасяленца, ад важнага здарэньня, што адбылося на гэтай вуліцы або пляцы (пляц Незалежнасьці). Мэмарыяльныя назвы для беларускае тапанімічнае традыцыі менш характэрныя, яны замацаваліся на працягу апошняга стагодзьдзя.

З гледзішча выкладзенае канцэпцыі ўпарадкаваньне гарадзкой тапанімікі мусіць складацца зь некалькіх этапаў. Гэта, па-першае, вяртаньне ўсіх гістарычных назваў, вядомых да канца XVIII ст., і пазьнейшых назваў, якія адпавядаюць выкладзеным прынцыпам. Па-другое, гэта перагляд астатніх назваў. Пры такім пераглядзе, на нашу думку, неабходна ўлічваць, што сярод цяперашніх назваў вуліцаў і іншых тапанімічных аб'ектаў нашых гарадоў неапраўдана шмат ідэалягізаваных. Мэмарыяльныя назвы павінны быць адзінкавымі, давацца ў гонар вельмі абмежаванага кола выдатных дзеячоў агульнанацыянальнага маштабу альбо зьвязаных з пэўным горадам. Калі дазваляюць законы словаўтварэньня, лепш даваць мэмарыяльныя назвы ў форме прыналежных прыметнікаў.

**ПРАПАНОВЫ**

У дзьвюх складзеных мною табліцах чытач пабачыць як прапановы, ухваленыя гарадзкімі ўладамі, гэтак і дыскусійныя.

Цяперашняе абурэньне менчукоў тапанімічным самавольствам Лукашэнкі стварае выдатную нагоду, каб зноў павярнуць грамадзкую думку да праблемы сьвядомага нішчэньня нашае гістарычнае памяці й яе абароны. Дык жа скарыстаймася!

*Ухвалена Камісіяй па тапаніміцы Менскага гарадзкога выканаўчага камітэту.

**Сабраныя подпісы жыхароў.

***Нагатвор паводле традыцыйнага назову мясьціны.

*Алесь **БЯЛЯЦКІ**,*
*старшыня камісіі па сувязях з грамадзкасьцю Партыі БНФ*

# Дзе гэтая вуліца, дзе гэты дом...

Працэс найменаваньня вуліцаў пачаў ідэалягізавацца з прыходам у Беларусь расейскіх уладаў з канца 18 стагодзьдзя. Менавіта ў той час зьявіліся ў нас розныя "Преображенскія" і "Георгіевскія", "Паліцэйскія" і "Губернаторскія". У часы свайго панаваньня камуністы спрэс ідэалягізавалі гарадзкую тапаніміку. І таму, натуральна, пасьля зьяўленьня ў Менску ў 1990-ым годзе больш-менш плюралістычнага складу гарсавету, дзе прадстаўнікі "Дэмакратычнай плыні" займалі прыкладна трэціну месцаў, паўстала пытаньне дэідэалягізацыі менскай тапанімікі.

Паводле ініцыятывы камісіі па культуры гарсавету, куды ўваходзіў і я, была створаная грамадзкая камісія па тапаніміцы, у якую ўвайшлі вядомыя беларускія гісторыкі й мовазнаўцы. Гэтая тапанімічная камісія, вядома, са зьмененым складам, працуе і зараз.

Даволі хутка была распрацаваная канцэпцыя разьвіцьця тапанімікі ў Менску. Асноўныя прынцыпы яе заключаліся ў тым, каб аднавіць гістарычныя назвы вуліцаў старога Менску, што закранала ў асноўным цэнтар горада. Быў складзены адпаведны плян. Нажаль, менгарвыканкам тады заблякаваў гэты плян аднаўленьня старажытных назваў менскіх вуліцаў.

Пры перайменаваньні ж савецкіх назваў вуліцаў, якія раней ня існавалі, вырашана было, па-першае, абапірацца на гістарычную тапаніміку старых вёсак, урочышчаў, якія ўвайшлі ў склад гораду й некалі знаходзіліся на месцы гэтых вуліцаў, па-другое, умацоўваць вядомых асобаў у гісторыі Беларусі, якія зрабілі свой унёсак у яе дзяржаўнасьць і культуру.

Часткова гэтыя прынцыпы працавалі ўсе наступныя гады. Такім чынам, у нас зьявіліся назвы станцыяў мэтро "Ракаўская" й "Каменная горка", (затым "Ракаўскую" гвалтам перайменавалі ў "Спартовую") аднавілася назвы вуліцаў Раманаўская слабада й Гарадзкі вал, зьявіліся новыя назвы вуліцаў, такія, як Масюкоўшчынская, Ржавецкая, Ёдкаўская па назвах вёсак, якія ўвайшлі ў рысу горада, у раёне Лошыцы ўвекавечаныя імёны Станіслава Манюшкі, Язэпа Драздовіча, Каруся Каганца і гэтак далей.

У тыя ж часы непазьбежна паўстала пытаньне перайменаваньня Ленінскага праспэкту. Было абмеркавана некалькі варыянтаў, якія назвы маглі б замяніць імя камуністычнага правадыра, і, урэшце ўсе сышліся на асобе Францішка Скарыны, як асобы найбольш вартай для найменьня цэнтральнага праспэкту краіны. У "адным пакеце" з праспэктам былі таксама пляц Леніна й вуліца Максіма Горкага, у перайменаваньні якой я быў зацікаўлены, бо працаваў на той час дырэктарам музэя Максіма Багдановіча, які быў нарадзіўся на гэтай вуліцы. Даводзілася пісаць лісты ў гарсавет і савет міністраў, Кебічу й Шушкевічу, а ў гарсавеце выступаць ужо ў якасьці дэпутата.

Памятаю, як адбывалася абвяшчэньне перайменаваньня вуліцы Горкага ў вуліцу Максіма Багдановіча. Гэтае рашэньне, падрыхтаванае Менгарвыканкамам, супала з правядзеньнем сьвяточнай вечарыны з нагоды 100-годзьдзя Максіма Багдановіча ў сьнежні 1991 году. Вечарына адбывалася ў Тэатры опэры й балету.

І вось, у прысутнасьці больш за 1000 ўдзельнікаў Станіслаў Шушкевіч зачытаў рашэньне Мінгарвыканкаму аб перайменаваньні праспэкту і пляцу Леніна, а таксама вуліцы "пралятарскага пісьменьніка" Максіма Горкага ў вуліцу "паэта чыстай красы" Максіма Багдановіча. Уся заля тэатра літаральна патанула ў хвалях авацыяў.

# Прайшло амаль 15 год...

За савецкім часам рашэньні мясцовых органаў дзяржаўнага кіраваньня мелі несамастойныя, другасныя ў дачыненьні да партыйных і цэнтральных дзяржаўных органаў улады, характар. Па загадзе зьверху гарадзкія ўлады (рашэньнем гарвыканкама) агулам надавалі старым і новым вуліцам назвы і імёны, ніяк не зьвязаныя з гісторыяй гораду. Так, у 70-я гады, для выкананьня "праграмы" мэмарыялізацыі герояў-камсамольцаў 15-ці рэспублікаў Савецкага Саюза ў Менску зьявіліся вуліцы Судмаліса і Чыгладзэ, Мельнікайтэ і Рафіева, Авакяна й Кульман, Алібегава й Асаналіева. Цэнтральны пляц зьмяніў назву на "ідэалягічна вытрыманую" "Кастрычніцкі".

Часам цэнтральныя дзяржаўныя органы самі надавалі новыя назвы гарадзкім месцам. Напрыклад, пасля сьмерці партыйных дзеячоў КПБ - Машэрава ў 1980-м і Кісялева ў 1982-м іх імёны былі замацаваны Пастановамі Савета Міністраў БССР адпаведна за Паркавай магістральлю і (што асабліва крыўдна і балюча) за старажытнай Старажоўскай вуліцай. Менавіта ад заставы на гэтай вуліцы ў мінулыя стагодзьдзі адлічваліся адлегласьці да іншых гарадоў і вёсак.

Абуджэньне грамадзкасьці ў часы перабудовы спрыяла зьменшэньню ролі камуністычнай партыі й фармаваньню мясцовых органаў улады на больш дэмакратычнай аснове. У сакавіку-красавіку 1990 года быў абраны Менскі гарадзкі Савет тады яшчэ народных дэпутатаў XXI скліканьня, у якім давялося працаваць і аўтару гэтых радкоў.

Безумоўна, сярод вельмі надзённых пытаньняў забесьпячэньня першасных патрэбаў насельніцтва ў харчаваньні, адзеньні, пабытовых рэчах, заробку, працаўладкаваньні ды іншых, што падкідвала жыцьцё на рубяжы 80-х і 90-х гадоў, падчас імклівага, натуральнага развалу СССР і адначасовага набыцьця Беларусьсю праяваў незалежнасьці, дэпутатамі не было забытае і пытаньне вяртаньня людзям гістарычнай памяці, замацаванай у тапаніміцы - " назвах вуліцаў, пляцаў, мясьцінаў, раёнаў і населеных пунктаў.

Сталая дэпутацкая камісія Мінгарсавета па культуры й ахове гісторыка-культурнай спадчыны, якую узначаліў вядомы гісторык-археоляг Ігар Чарняўскі, адразу вызначыла свае адносіны да тапанімічнага пытаньня. Трэба вяртаць Менску яго гістарычны вобраз і нацыянальны выгляд. Для гэтага неабходна адрадзіць старажытныя назвы гарадзкіх вуліц і плошчаў, страчаныя ў выніку бязглуздых пераназоваў савецкага і царскага часу, а таксама ўвекавечыць імёны сапраўды славутых і выдатных дзеячоў вельмі багатай беларускай гісторыі і культуры з часоў старажытнасьці й да першай паловы XX стагодзьдзя. Апошняе можна было б рабіць у дачыненьні да аб'ектаў, якія раней ня мелі больш гістарычна каштоўнай назвы ў параўнаньні зь імёнамі выбітных гістарычных ці творчых асобаў.

**Андрэй ЗАВАДЗКІ,**
дэпутат Менскага гарсавету
XXI скліканьня

У Менгарвыканкаме і раней існавала, а на пачатку 1991 г. была наноў сфарміраваная тапанімічная камісія, якую ўзначаліў старшыня Камітэта па адукацыі, культуры і маладзёвай палітыцы, намесьнік старшыні выканкама Аляксандр Сасноўскі. Раней ён быў дырэктарам ПТВ мэталістаў і зьявіўся ў выканкаме толькі ў студзені 1991 г. Тыповы чыноўнік і носьбіт савецка-партыйных поглядаў, які вызнаваў толькі аўтарытарныя мэтады і аддана глядзеў у бок вышэйшага кіраўніцтва, Сасноўскі ня здольны быў наладзіць эфэктыўную дзейнасьць тапанімічнай камісіі ды стрымліваў прапановы дэпутатаў і гістарычна дасьведчаных сябраў камісіі, якую сам узначальваў.

А ў склад гарадзкой тапанімічнай камісіі пры выканкаме ўваходзіла група безумоўна выдатных спэцыялістаў: Адам Мальдзіс, Захар Шыбека, Уладзімер Дзянісаў, Расьціслаў Баравы, Вінцук Вячорка, Ігар Чарняўскі. Але яны складалі меншасьць. Апроч іх у камісіі ўдзельнічалі спэцыялісты ўпраўленьняў культуры, архітэктуры і шэраг іншых асобаў.



Камісія Сасноўскага павінная была рабіць заключэньні і рыхтаваць прапановы па назвах гарадзкіх аб'ектаў з мэтай разгляду гэтых матэрыялаў на паседжаньні Менгарвыканкама й прыняцьця канчатковага рашэньня. На вялікі жаль, камісія праводзіла свае паседжаньні нерэгулярна, звычайна, калі ў выканкам ад будаўнікоў новага мікраранёну паступала заяўка на прысваеньне назваў вуліцам новабудоўлі, ці калі нейкая арганізацыя, ці прадпрыемства зьвярталіся з просьбай ушанаваць памяць іх былога кіраўніка, або ганаровага грамадзяніна, што працаваў з імі. Паседжаньні мог склікаць толькі старшыня камісіі. Пэрспэктыўнага пляну камісія не складала й працавала хаатычна. Аўтар гэтых радкоў і іншыя дэпутаты камісіі Чарняўскага не трапілі ў склад камісіі выканкама і маглі прысутнічаць на яе паседжаньнях толькі з правам дарадчага голасу.

Але дэпутацкая камісія не магла абыякава пазіраць на дзейнасьць выканкама. З дапамогай пераліčаных вышэй спэцыялістаў быў створаны банк дадзеных па гістарычных гарадзкіх назвах, асобны банк дадзеных па дзеячах гісторыі і культуры Беларусі з канца IX па сярэдзіну XX ст., якія вартыя ўшанаваньня іх імёнаў у Менску. Быў створаны асобны банк па назвах вуліцаў і пляцаў, якія патрабуюць зьмены сваіх назваў з-за іх абсурднасьці ці ганебнасьці для твару горада.

Трэба было нарэшце зрабіць крок, каб пачаць рэалізацыю плянаў камісіі Чарняўскага і паставіць камісію Сасноўскага перад неабходнасьцю прынцыповай зьмены формаў і напрамкаў сваёй працы. Як заўсёды дапамог выпадак. У траўні 1991 году намесьнік старшыні Менгарсавету Анатоль Гурыновіч, старшыня камісіі па культуры Ігар Чарняўскі і я былі ў Вільні, дзе сустракаліся зь мясцовай беларускай грамадзкасьцю і дэпутатамі Віленскага самакіраваньня.

Калі я ў чарговы раз распавёў пра нявырашэньні пытаньняў зь менскай тапанімікай, мае калегі Чарняўскі і Гурыновіч, як службовыя асобы гарадскога Савету, далі мне дaручэньне распрацаваць праект рашэньня Мінгарвыканкаму па зьменах назваў менскіх вуліц і пляцаў, які можна было б разгледзець на тапанімічнай камісіі Сасноўскага і вынесьці на паседжаньне выканкама. У першай палове чэрвеня 1991 году такі праект быў падрыхтаваны, зацьверджаны на дэпутацкай камісіі і праз упраўленьне культуры гарвыканкама разасланы ўсім сябрам тапанімічнай камісіі.

Праект утрымліваў прапановы прыкладна па трох дзясятках аб'ектаў. Па кожным пункце дадавалася аргумэнтацыя і гістарычная даведка аб тым, зь якога часу вядомая прапанаваная назва ці чаму прапануецца імя той ці іншай асобы. Першай ішла прапанова пра перайменаваньне Ленінскага праспэкта ў праспэкт Францішка Скарыны, бо няма ў беларускай гісторыі і сьвядомасці нашых людзей іншай асобы, якая магла б быць ушанаваная ў назве цэнтральнага праспэкта сталіцы. Далей у праекце згадваліся такія назвы для старажытнага цэнтра гораду, як вуліцы Кальварыйская і Койданаўская, Валоцкая і Гарадзкі Вал, Фэліцыянаўская і Зборавая, Дамініканская і Падгорная, Бэрнардынская і Ракаўская, Вялікая Татарская і Раманаўская Слабада, Старажоўская і Зыбіцкая, Барысаглебская і Белацаркоўная, пляцы Высокі і Нізкі рынак, Траецкі ды Сенны.



Частка вуліц, што ня мелі прыстойных гістарычных назваў, былі прапанаваныя для ўшанаваньня выдатных асобаў беларускай гісторыі. Так, замест Мясьнікова магла зьявіцца вуліца князя Глеба Менскага, Валадарскага зьменена на Еўфрасінні Полацкай, а Сьвярдлова - на Вацлава Ластоўскага. Натуральнай і бясспрэчнай выглядала замена вуліцы Горкага на Максіма Багдановіча, тым больш, што набліжаўся стогадовы юбілей паэта, які нарадзіўся побач з гэтай вуліцай і ад сотняў жыхароў Менску ішлі просьбы надаць вуліцы імя паэта.

Тапанімічная камісія разгледзела праект і зь невялікімі папраўкамі ўзгадніла яго. Але Сасноўскі марудзіў выносіць прапановы на разгляд выканкама, што адлюстроўвала агульнае (наскрозь пракамуністычнае) стаўленьне прадстаўнікоў выканкама да праекту. Толькі падзеі правалу жнівеньскага путчу 1991 г. прымусілі гарадзкія ўлады нешта рабіць. Але і тут на выканкам ня быў вынесены праект цалкам, а толькі яго малая частка.

У сьнежні 1991 году было прынятае гістарычнае рашэньне пра праспэкт Францішка Скарыны і пляц Незалежнасьці, а таксама пра вуліцу Максіма Багдановіча. Паседжаньне адбывалася 9 сьнежня - якраз у дзень 100-гадовага юбілею паэта. Як ні дзіўна, калі Скарына і Незалежнасьць прайшлі адносна лёгка, дык пытаньне з Багдановічам было "зарублена" і ў першым, і ў другім галасаваньні. Асабліва гэтаму "паспрыяла" загадчыца справамі выканкама Валодзькіна, якой "было крыўдна за вялікага рускага пісьменьніка Горкага". Трэба адзначыць, што на той момант самі расіяне ўжо вярнулі гораду Горкаму яго спрадвечную назву - Ніжні Ноўгарад.

Старшыня Менгарсавета і адначасова Менгарвыканкама Аляксандр Герасіменка апынуўся ў вельмі няёмкім становішчы. У тэатры Опэры і Балету пачыналася ўрачыстае паседжаньне з нагоды юбілею Багдановіча, на якім Герасіменка павінны быў выступаць, а патрэбнага рашэньня ўсё не было. Толькі з трэцяй спробы, па сутнасьці пад маральным націскам дэпутатаў, вуліца Горкага стала вуліцай Багдановіча.

Наступны раз гарвыканкам зьвярнуўся да праекту адраджэньня тапанімікі толькі праз паўтара гады, у чэрвені 1993 г. У Менску зьявіліся такія вуліцы як Гарадзкі Вал, Раманаўская слабада, Кальварыйская і Ракаўская. Праўда, выканкаму спатрэбілася амаль чатыры месяцы, каб вырабіць і зьмяніць нешматлікія шыльды на адроджаных вуліцах. Аўтару гэтых радкоў давялося на сэсіі гарсавету спэцыяльна прыцягваць увагу чыноўнікаў да невыкананьня ўласных рашэньняў.

Зьявілася на мапе гораду й вуліца Старажоўская, але зьявілася яна не на сваім законным месцы каля бровара "Аліварыя", а на ўзьбярэжжы Сьвіслачы, за Траецкім прадмесьцем, на месцы ня менш старажытнай вуліцы Стараслабодзкай. Адбылося гэта таму, што Мінгарвыканкам ня мае правоў адмяніць ранейшае, яшчэ 1982 г., рашэньне Савету Міністраў. Астатнія прапановы праекту 1991 г., нажаль, так і не былі рэалізаваныя й дагэтуль чакаюць свайго часу. Гэты час абавязкова прыйдзе.

# Працэс важнейшы за вынік




Беларуская ўлада словамі намесьніка міністра замежных справаў заяўляе, што Беларусь прайшла дзьве трацiны шляху па далучэньню да Сусьветнай гандлёвай арганізацыі, ды ўжо ўвосень здольная распачаць завяршальную стадыю перамоваў. Шалёны аптымізм!

У МЗС, безумоўна, добра ведаюць, што шлях перад намі яшчэ немалы: неабходна адмяніць, зьмяніць альбо ўнесьці зьмены ў больш чым 100 дэкрэтаў ды ўказаў Аляксандра Лукашэнкі, законаў, пастановаў ураду з-за таго, што яны супярэчаць правілам ды нормам СГА.

Зараз нават Мін'юст падрыхтаваў праект указу прэзыдэнта, які ўтрымлівае стос нарматыўных прававых актаў па рэгуляваньню зьнешнеэканамічнай дзейнасьці. Галоўная мэта гэтага ўказу – палегчыць краінам-удзельніцам СГА доступ на наш рынак.

Гэта, натуральна, няблага, што ў адпаведнасьці з законам аб дзяржаўным рэгуляваньні зьнешнегандлёвай дзейнасьці (які, дарэчы, пачне дзейнічаць зь 15 чэрвеня), уся нарматворчая праца будзе базавацца на патрабаваньнях СГА. Між іншым, у Беларусі ўжо з пачатку 2004 году ўсе нарматыўна-прававыя акты праходзяць экспэртызу на адпаведнасьць нормам СГА.

Зь іншага боку, той жа МЗС цьвердзіць: «Мы вядзём перамовы з краінамі, зь якімі больш за іншых гандлюем. А тыя, якія вылучаюць нам празьмерныя палітычныя патрабаваньні, нашымі гандлёвымі партнэрамі не зьяўляюцца».

Але нават калі ўвогуле ня весьці пра палітыку (што ў дачыненьні да нашай эканомікі, сапраўды, ня выпадае) абавязальніцтвы Беларусі перад Сусьветнай гандлёвай арганізацыяй утрымліваюць такія пункты, як перагляд законаў, дэкрэтаў і ўказаў, у якіх вядзецца пра празьмерную жорсткасьць мытных працэдураў, пра "залатую акцыю", пра наяўнасьць спэцэкспартэраў, значнай колькасьці нетарыфных абмежаваньняў па імпарце, а таксама высокіх увозных пошлінаў на шэраг тавараў, якія ня робяцца ў Беларусі. Для ўсяго патрэбная воля аднаго чалавека. І мы яго ведаем. Пасьля прыняцьця ўказу прэзыдэнта аб прывядзеньні ў згоду з нормамі СГА дэкрэтаў, указаў, законаў ды пастановаў ураду, органы дзяржаўнага кіраваньня распачнуць працу па пераглядзе ведамасьцевых нарматыўных актаў.

У працэсе перамоваў па далучэньню да СГА кожная краіна абгаворвае індывідуальныя ўмовы, ды атрымлівае некаторыя льготы ці выключэньні на, так бы мовіць, пераходны пэрыяд, які можа доўжыцца некалькі год.

Чарговы раўнд перамоваў Беларусі пра уваход Беларусі ў СГА адбудзецца ўвосень. Чакаецца, што краіна цягам бліжэйшага часу падпіша двухбаковыя дамовы з Кітаем, Індыяй, Кубай, Малдовай, Кыргыстанам пра абавязальніцтвы па адкрыцьці для іх нашага ўнутранага рынку.

Экспэрты ацэньваюць, што перамоўны працэс аб далучэньні Беларусі да СГА можа завершыцца ў канцы 2006 – пачатку 2007 году.

Страты краіны ад няўдзелу ў СГА штогод складаюць каля 100 мільёнаў даляраў, а выдаткі на перамоўны працэс складаюць 30 – 40 тысячаў даляраў штогод.

Удзельнічаюць у СГА на сёньня 148 краінаў, у тым ліку 7 краінаў СНД і Балтыі – Арменія / увайшла 5 лютага 2003 г/, Эстонія /13 лістапада 1999 г/, Грузія /14 чэрвеня 2000 г/, Латвія /10 лютага 1999 г/, Літва /31 траўня 2001 г/, Малдова /27 ліпеня 2001 г/, Кыргыстан /20 сьнежня 1998 г/.

**Юры Гембіцкі**

## АДНЫМ АБЗАЦАМ

### Чым думалі?

Міністэрства архітэктуры й будаўніцтва Беларусі прапаноўвае ўраду абмежаваць рэнтабэльнасьць будаўнічых арганізацыяў-замоўцаў пяцьцю адсоткамі. На думку чынавенства, гэты захад дазволіць спыніць і панізіць кошты на жытло. Дзіўная логіка. Такі крок, хутчэй, справакуе рост коштаў на жытло, бо будаўнічыя кампаніі пры нізкай рэнтабэльнасьці будуць папросту меней будаваць, а попыт на жытло значна перавысіць прапанову.

### Рэальны кошт саюзу

Беларускія фармацэўтычныя прадпрыемствы адчуваюць вялікія складанасьці пры экспарце сваёй прадукцыі ў Расею (заўважым, на яе ў мінулым годзе прыйшлося 72 % экспарту беларускіх лекаў). Гэтыя цяжкасьці абумоўленыя тым, што Расея ўвяла ліцэнзаваньне ўвозу мэдычных прэпаратаў, падвысіла кошт працэдуры рэгістрацыі, а таксама ўскладніла атрыманьне сэртыфікатаў. Беларусь тэрмінова пераарыентуе экспарт у краіны Цэнтральнай Азіі, Каўказу, Украіну ды Малдову. Вось такі "саюз навекі".

### "Наш" ровар

ААТ «Матавела», адзін з буйнейшых у СНД вытворцаў матацыклаў ды ровараў, паставіць 500 двухколавых ровараў для беларускіх міліцэйскіх патрулёў. Завод распрацаваў гэтую мадэль ровара адмыслова па загадзе МУС. Спэцровар мае яркую бела-сінюю афарбоўку з надпісам "Міліцыя" на раме. Ён таксама абсталяваны трымальнікамі для радыёстанцыі ды гумовага дручка.

# Цяжкі рэфэрэндум

**Юры Гембіцкі**

Большасьць эўрапейскіх палітыкаў лічаць, што ратыфікацыю новай Эўрапейскай Канстытуцыі трэба адкласьці. Дзьве краіны – Францыя й Нідэрлянды – сказалі "не". Гэта значыць, працэс трэба часова прыпыняць. Бо Эўраканстытуцыя павінная быць прынятая кансэнсусам, то бок усімі дваццацьцю пяцьцю краінамі Эўразьвязу. Пакуль яе ня ўхваляць усе краіны – сябры ЭЗ – яна ня можа пачаць дзейнічаць. Прэм'ер-міністар Вялікай Брытаніі Тоні Блэр зрабіў заяву, што Злучанае Каралеўства пакуль ня можа праводзіць рэфэрэндум. Сытуацыя, якая склалася вакол Канстытуцыі, будзе абмяркоўвацца ў часе саміту лідэраў краінаў Эўразьвязу, які адбудзецца 16 і 17 чэрвеня.

У Канстытуцыі прадугледжанае спрашчэньне працэдураў і прыняцьця рашэньняў пасьля пашырэньня Эўразьвязу. Прыгадайма, "так" Эўрапейскай канстытуцыі "пасьпелі" сказаць Аўстрыя, Грэцыя, Вугоршчына, Італія, Латвія, Літва, Славаччына, Славенія, Гішпанія ды Нямеччына.

Рэфэрэндум паказаў праблему ўдасканаленьня Эўразьвязу ды ўвогуле эўрапейскай інтэграцыі. Падаецца, што вялікая колькасьць заходніх эўрапейцаў апынулася папросту непадрыхтаванай маральна да таго, што зьвяз будзе пашырацца так хутка. А калі ўлічыць, што ідуць размовы аб далучэньні да Эўразьвязу Баўгарыі, Румыніі, Турцыі...
Што зараз? Ці будзе праведзены рэфэрэндум па чарзе ва ўсіх астатніх краінах, ці кіраўніцтва краінаў вырашыць пайсьці шляхам парлямэнцкага галасаваньня? Ці мо' працэс паставяць "на паўзу". Ці ўвогуле, спыняць і пачнуць адкручваць назад?

Дый нэгатыўны вынік францускага ды галяндзкага рэфэрэндумаў у справе Канстытуцыі Эўразьвязу яшчэ не азначае, што Канстытуцыя ня будзе прынятая. Так, ёсьць вялікія антыэўрапейскія настроі ў Брытаніі (чаго варты лёзунг кансэрватараў "Мы ня хочам жыць у краіне з назвай "Эўропа", ня кажучы ўжо пра ЮКІП – Партыю незалежнасьці Брытаніі). Ня вельмі высокая падтрымка агульнай Канстытуцыі ў Даніі, Чэхіі ды Польшчы. Але, мяркуем, гэта часовыя праблемы.

Аб'яднаўчы працэс ня можа быць лёгкім. Тым больш, што дадаліся да зьвязу краіны, да большасьці якіх "стары ЭЗ" ставіцца як да "нахлебнікаў". Як казаў былы старшыня Эўракамісіі, Жак Дэлёр: "Нельга адначасова плянаваць пашырэньне, якое шмат каштуе, і моцна трымацца за ўласны вацок. Трэба абіраць нешта адно".

У любым выпадку, нават калі Эўраканстытуцыя й ня будзе прынятая бліжэйшым часам, краіны будуць кіравацца дамовай, падпісанай ў 2001 годзе кіраўнікамі ўсіх краінаў ЭЗ – і старых, і новых. Адзінае, на чым "не" на двух рэфэрэндумах сур'ёзна ўжо адбілася – дык гэта на "здароў'і" эўра, пакашнікі якога пайшлі ўніз. Але гэта, здаецца, таксама часовая зьява. Цікава, пра што дамовяцца лідэры краінаў "Злучаных штатаў Эўропы" бліжэйшымі днямі?




## Камэнтар старшыні Партыі БНФ Вінцука Вячоркі:

Ня будзем усьлед за БТ вохкаць пра "развал Эўразьвязу", бо ніякага развалу няма. Наадварот, з гледзішча дэмакратыі, беларускіх нацыянальных інтарэсаў і нашай эўразьвязаўскай пэрспэктывы адзначым пазытыўныя моманты падзеі.

1. Праект Эўраканстытуцыі будзе перагледжаны ў бок нацыянальных гарантыяў. У новым тэксьце асноватворнага дакумэнту (можа, ён і не Канстытуцыяй звацьмецца) ня будзе інстытуцыяў, якія фактычна становяцца па-над нацыянальнымі дзяржавамі (альбо яны будуць мець больш сымбалічны статус).

2. Вынікі рэфэрэндуму ў Францыі ў вялікай ступені абумоўленыя яе нутранымі праблемамі. У выніку ўплыў Францыі як традыцыйна прарасейскай краіны ў Эўразьвязе зьменшыцца.

3. Эўрачыноўнікі й эўрапалітыкі мусяць болей зважаць на рэальныя настроі грамадзтва, а значыць, Эўразьвяз мае шанец на большую дэмакратычнасьць у прыняцьці важных палітычных рашэньняў.

Натуральна, ёсьць і адмоўныя аспэкты. Асноўны зь іх - гэта занятасьць Эўразьвязу сваім нутраным клопатам, а значыць, меншая ўвага да Беларусі.



# Сьвята даўжынёй у 10 год

7 чэрвеня споўнілася дакладна 10 год, як Беларусь атрымала першую спартовую перамогу эўрапейскага роўню. І адначасова – апошнюю пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Зборная Беларусі па футболе перамагла ў Менску на стадыёне "Дынама" зборную Галяндыі.

На той час не прайшло яшчэ й месяцу, як адбыўся першы ганебны рэфэрэндум, які паставіў спрадвечныя беларускія сымбалі ў шэраг "незарэгістраванай сымболікі". Але тады сьцягі яшчэ не адбіралі. І ўвесь стадыён "Дынама" палаў бел-чырвона-белымі колерамі. 37 тысячаў гледачоў набылі квіткі й прыйшлі на стадыён "на галяндцаў". А трыбуны (тады яшчэ драўляныя лаўкі) зьмяшчалі на той момант 50 тысячаў 50 гледачоў.

Прыгадаем склады тых камандаў.
**Беларусь:** Валер Шанталосаў, Сяргей Гурэнка, Андрэй Доўнар (Яўген Кашанцаў, 87), Павал Раднёнак, Аляксандар Тайкоў, Уладзімер Журавель, Андрэй Зыгмантовіч (капітан), Сяргей Герасімец, Андрэй Юсіпец, Міраслаў Рамашчанка (Юры Антановіч, 55), Пётра Качура. Нашым галоўным трэнэрам на той час быў Сяргей Бароўскі.
*На гэты час з той каманды працягваюць гуляць Шанталосаў (у Казахстане за кустанайскі "Табол"), Гурэнка (у Расеі за маскоўскі "Лякаматыў") ды Качура (у Расеі ж за "Сокал" з Саратава).*

**Галяндыя:** Эдвін ван дэр Сар, Рональд дэ Кок, Дэні Блінд (капітан) (Аарон Вінтэр, 70), Стэн Валькс (Артур Нуман, 64), Вім Ёнк, Клярэнс Зээдорф, Рональд дэ Бур, Рон ван'т Сxіп, Патрык Клюйвэрт, Марк Овэрмарс. Галоўным трэнэрам галяндцаў быў Гус Хідынк.
*На гэты час актыўна "практыкуецца" ван дэр Сар (з наступнага сэзону будзе гуляць за "Манчэстэр Юнайтэд"), і Клярэнс Зээдорф (за "Мілян").*

Дэбютуючы на эўрапейскай арэне (сябрам ФІФА Беларусь стала 3 ліпеня 1992 году, а УЕФА – толькі 20 чэрвеня 1993), зборная Беларусі патрапіла ў адну групу з вельмі моцнымі зборнымі Галяндыі, Чэхіі ды Нарвэгіі, а таксама з аўтсайдэрамі Мальтай і Люксэмбургам. У выніку атрымалася свайго кшталту ліноўка вымярэньня футбольнага майстэрства. Фінішавалі зь 10 ачкамі на чацьвертым месцы, што было аб'ектыўна...

Сёньня мы ізноў займаем чацьвертае месца. Але, верым, у канцы сэзону будзем вышэй. Бо мы сталі мацней. І ў нас у зборнай ёсьць чалавек, які перамагаў Галяндыю – гэта наш капітан Сяргей Гурэнка, які згуляў за каманду ўжо 76 матчаў. А таксама – Юры Жаўноў, Сяргей Штанюк, Сяргей Ясковіч, Сяргей Амельянчук, Дзяніс Коўба, Аляксандар Кульчы, Аляксандар Глеб, Валянцін Бялькевіч, Максім Рамашчанка, Віталь Кутузаў, Сяргей Карніленка... Людзі, якія прыяжджаюць у зборную з адчуваньнем радасьці, што яны граюць за Беларусь. Граюць, аддаючыся сваёй справе, з пачуцьцём гонару й годнасьці. І трэнэр Анатоль Байдачны таксама. І нас сталі паважаць у Эўропе. Не легендарнае менскае "Дынама" 80-х, а нас сёньняшніх, тут і зараз.

А яшчэ два гады таму, якраз удзень 7 чэрвеня 2003 году беларуская зборная сустрэлася ў Менску з тымі ж галяндцамі й прайграла 0:2. Гэта быў апошні матч пад кіраўніцтвам Эдуарда Малафеева, падараваўшага нам надзею, але не трывалую постаць. Гульня нашая яшчэ зусім нядаўна адрозьнівалася дэфіцытам фантазіі, імправізацыі ды, галоўнае, унутранага пачуцьця ўласнай моцы. Сёньня яно ў нас ужо ёсьць. А перамога над Галяндыяй, атрыманая 7 чэрвеня 1995 году, назаўсёды ўвайшла ў гісторыю перамог спартовае Беларусі. І гол, які забіў Сяргей Герасімец, зь неверагодна вострага кута, крыху нязграбны, і цудоўны пас Качуры – гэта нашая спартовая спадчына. Перамога пад бел-чырвона-белым сьцягам. Сёньняшняе пакаленьне, верым, будзе перамагаць больш часта. У фіналах. Пад нацыянальным сьцягам.




Навіны
БНФ

**E-mail:** pbnf@pbnf.org
**Сайт:** http://www.pbnf.org
**Адрас для ліставаньня:** 220005, Менск, вул. Варвашэні 8, Сядзіба БНФ

**Галоўны рэдактар:** Юры Гембіцкі
**Выпускны рэдактар:** Франак Вячорка

№5(83), 11 чэрвеня 2005 г., наклад 299 ас.
Распаўсюджваецца бясплатна на правох унутранай дакумэнтацыі